# БЯРОЗКА

*Штомесячны дзіцячы часопіс*
*Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

*Пролетарыі усіх краін, еднайцеся!*

*№ 11*
ЛІСТАПАД 1946 г.
Выдавецтва ЦК ЛКСМБ



*Вуснае лічэнне*

З карціны Багданава-Бельскага.

Вядомы рускі мастак мінулага стагоддзя Н. П. Багданаў-Бельскі працаваў настаўнікам у вясковай школе. Ен намаляваў некалькі карцін з жыцця старой школы. Вуснае лічэнне—адна з гэтых карцін.

Уважліва разгледзьце карціну і раскажыце яе змест.




*Эдзі АГНЯЦВЕТ*

*Мал. Ф. Круглянскага*

Мар'я Цімафееўна
Знае ўсё на свеце —
Як стварылася зямля,
Што такое вецер.

Хоць і строгая яна,
Але позірк ясны.
Як з'яўляецца яна, —
Светла ў нашым класе.

Мар'я Цімафееўна! —
Мы ўстаём вясёла.
Любім срэбра ў валасах,
Любім мы ваш голас.

«Дзеці, слухайце!» —
і ўраз

Мы цішэй травінак.
«Ці вы знаеце, якой
Зробіцца краіна?»

І, здаецца, бачым мы,
Як руіны зніклі,
Вішні белыя цвітуць,
Сад шуміць вялікі.

Перад намі —
плошчаў шыр,
Чыста і прасторна.
Ля палаца горда стаў
Помнік —
хлопчык з горнам.

Многа пабяжыць машын,
Сініх і зялёных,
Многа вырасце дамоў —
З мармура калоны!

Хай сабе звініць званок, —
Мы яго не чуем,
І па будучыні мы
З радасцю
вандруем.










# СУСТРЭЧА

*М. ЛУПСЯКОЎ*

*Мал. М. Гурло*

Раніцою Міхаська збіраўся ў школу. Маці дала яму рубель і сказала:

— Гэта табе на трамвай. Ды глядзі-ж, не сваволь на вуліцы.

— Што ты, мама! — сказаў Міхаська.—Я не буду сваволіць.

На вуліцы было вельмі прыгожа і светла. Ноччу выпаў першы снег; тоўстым белым пластам ён ляжаў на дахах дамоў і на тратуарах. Вуліцаю спяшаліся пешаходы. Усе былі апрануты ў цёплую вопратку, шмат хто меў на нагах валёнкі. Насупроць іхняга дома, ля магазіна, стаяў запрэжаны ў сані вараны конь. На санях была вялізная скрыня, і з яе выгружалі хлеб. А над вокнамі магазіна, на карнізах, скакалі і чырыкалі вераб'і.

Міхаська пастаяў на тратуары, патаптаў нагамі снег, зірнуў на сані, потым — на вераб'ёў, і яму зрабілася так радасна і весела, што ён усміхнуўся.

Які добры і ясны сёння дзень! А як прыемна, калі мароз шчыпле за шчокі, і з неба адна за другой марудна падаюць рэдкія сняжынкі...

Міхаська пайшоў па тратуары.

Дарога да школы была не малая. Трэба было выйсці на галоўную вуліцу, сесці ў трамвай і даехаць да цэнтра горада. А адтуль школа ўжо зусім блізка.

Міхаська дайшоў да трамвайнай астаноўкі і пачаў чакаць трамвая. Поплеч з ім стаяў нейкі высокі чалавек, апрануты ў даўгі шынель і ў шапку-вушанку. У чалавека быў яшчэ малады твар і ласкавыя шэрыя вочы. А насупроць яго стаяў яшчэ адзін чалавек, крыху ніжэйшы і старэйшы. Абодва яны размаўлялі. Той, што быў у шынялі, казаў:

— Другі дзень хаджу па горадзе і ўсё хадзіць хочацца. Гэта-ж не жартачкі — амаль сем год не быў. А я-ж тут і нарадзіўся і вырас... Кожная вуліца і кожны дом знаёмы...

Неўзабаве падышоў трамвай. Чалавек у шынялі і той, з якім ён размаўляў, падаліся да ўваходу. Міхаська пачакаў, калі ўсе зайшлі ў вагон, стаў на падножку і ўхапіўся абедзьвума рукамі за поручні. Трамвай крануўся. Рассыпаючы вясёлы звон, ён паімчаўся вуліцаю.

Міхаську заўважыла жанчына-кандуктар і сказала:

— Не вісні, хлопчык, на падножцы! Зайдзі ў вагон!

Міхаська зрабіў выгляд, быццам не пачуў яе. Але жанчына крыкнула:

— Зайдзі ў вагон, кажу табе, або я здам цябе міліцыянеру!

— А от і не зайду! — гарэзна крыкнуў Міхаська.

І хлопчык пачаў з ёю спрачацца. Яна яму скажа слова, а ён ёй два; яна—два, а ён—дзесяць...

І невядома, чым-бы ўсё гэта скончылася, калі-б не той чалавек у шынялі, які казаў, што другі дзень ходзіць па горадзе. Ён раптам схапіў Міхаську за руку і ўцягнуў яго ў вагон.

— Ты чаму, хлопчык, не слухаешся старэйшых? — запытаўся чалавек у шынялі. — Каб маці твая ведала, як ты трымаеш сябе на вуліцы, дык яна цябе не пахваліла-б...

Было троху ніякавата і разам з тым разбірала злосць на чалавека ў шынялі. Але сварыцца з ім ён не адважыўся, хуценька вызваліўся з яго рук і, купіўшы білет, пабег да выхаду.

Гэтае здарэнне крыху сапсавала яму настрой. Але як толькі ён сышоў з трамвая і зноў убачыў снег, пешаходаў у футрах і цёплых пальчатках, яму зноў зрабілася добра і радасна. Вуліцаю бег нейкі руды сабака, увесь у доўгай ускалмачанай поўсці, з шырокімі абвіслымі вушамі. Міхаська зляпіў снежку і запусціў ёю ў сабаку. Потым яму здалося, што ўзлаваны сабака гоніцца за ім, і ён пабег, колькі было сілы. На перакрыжаванні вуліц спыніўся і азірнуўся. Сабакі не было. Ішлі пешаходы, кожны быў заняты сваімі справамі. Міліцыянер стаяў на перакрыжаванні вуліц і кіраваў рухам машын. Дзве дзяўчынкі ў жоўтых кажушках, узяўшыся за рукі, пераходзілі вуліцу.



*Ён схапіў Міхаську за руку і ўцягнуў яго ў вагон.*

Міхаська пайшоў услед за дзяўчынкамі.

У школу ён паспеў якраз у час. Пачаліся заняткі. Пасля трэцяга ўрока настаўніца Вольга Аляксееўна паведаміла радасную навіну.

— Дзеці, — сказала яна,—да нас у школу прышоў Герой Совецкага Саюза.

Усе закрычалі:

— Мы хочам яго пабачыць, пакліцце яго ў наш клас!

А Міхаська запытаўся:

— Ён раскажа нам пра фронт?

— Вядома, раскажа, — адказала настаўніца. — Але не цяпер, а пасля заняткаў, у школьным зале.

— А як яго прозвішча? — зноў запытаўся Міхаська.

Настаўніца назвала вельмі вядомае ўсім прозвішча. Герой Совецкага Саюза да вайны вучыўся ў іхняй школе. Аб ім тут гаварылі вельмі часта, і школа перапісвалася з ім. Калі ён быў на фронце, дык выклікаў вучняў на спаборніцтва. Ён пісаў, што абяцае выдатна ваяваць, а вучні няхай дадуць абяцанне, што выдатна будуць вучыцца. А выніку, пісаў ён, параўнаем пасля вайны. Міхаську хацелася хутчэй убачыць героя. Яму было чым пахваліцца — у яго былі амаль адны

«пяцёркі» і толькі па дысцыпліне «тройка». На перапынках Міхаська некалькі разоў падыходзіў да настаўніцкай, але ўбачыць героя яму так і не пашанцавала.

Нарэшце, заняткі скончыліся. Міхаська схапіў свае кніжкі і пабег у зал. Там былі ўжо амаль усе вучні. Міхаська знайшоў сабе месца ў другім радзе і сеў. Вядома, вучні будуць расказваць, як яны вучыліся. Ён, Міхаська, таксама раскажа: яму ёсць аб чым расказаць.

Час цягнуўся вельмі марудна. Але вось у зал увайшоў дырэктар школы, настаўнікі і высокі чалавек, апрануты ў вайсковае. І ўсе адразу ўбачылі на яго гімнасцёрцы ордэны і медалі, а над імі— залатую звязду Героя.

Потым Герой Совецкага Саюза расказаў пра фронт, вучні расказвалі пра сваё жыццё і вучобу. Кіраўнік фотагуртка, настаўнік Андрэй Сазонавіч, прынёс фотаапарат і пачаў здымаць героя разам з дзецьмі. Усе стараліся сесці бліжэй да госця, і толькі Міхаська чамусьці увесь час трымаўся ўводдалі. Ён нават не вышаў і не расказаў, як ён вучыўся, а калі Герой Совецкага Саюза ішоў па калідоры, дык Міхаська забег у клас і прасядзеў там, пакуль госць не зайшоў у настаўніцкую.

Міхаську было вельмі крыўдна, хацелася плакаць. Калі ён вышаў са школы, дык ужо вечарэла. На вуліцы ён зноў убачыў таго самага сабаку, у якога запусціў снежкаю раніцой. Раней Міхаська не прапусціў-бы такога зручнага выпадку і абавязкова кінуў-бы ў сабаку яшчэ адной снежкай. Але цяпер ён не крануў сабаку, яму нават зрабілася яго шкада. А на трамвайнай астаноўцы, калі падышоў і спыніўся трамвай, Міхаська не застаўся на падножцы, а зайшоў у вагон і купіў білет. Ён быў пахмуры і задумлівы.

Нядобрая справа адбылася. Не расказаў Міхаська пра сваю вучобу і не сфатаграфаваўся разам з героем. Дый хіба можна было паказвацца на вочы, калі госць быў не хто іншы, як той самы чалавек у шынялі, які раніцою ўцягнуў яго ў вагон трамвая.



# СЯРГЕЙ МІРОНАВІЧ КІРАЎ

Сяргей Міронавіч Кіраў нарадзіўся ў 1886 годзе ў маленькім гарадку Уржуме, былой Вяцкай губерні. Сапраўднае прозвішча Сяргея Міронавіча не Кіраў, а Кострыкаў. Кіраў—гэта рэвалюцыйны псеўдонім Сяргея Міронавіча. Пад гэтым прозвішчам Сяргей Міронавіч стаў вядомы ўсім працоўным. Дзяцінства яго было цяжкім і бязрадасным. Вельмі рана страціўшы бацькоў, хлопчык пазнаў голад і нястачу. У яго было дзве сястры: старэйшая Анюта і малодшая Ліза.

Пасля смерці маці выхаваннем дзяцей занялася іхняя бабуля Маланння Аўдзееўна. Бабулі было 82 гады, і карміць усіх дзяцей ёй было не пад сілу. Таму сямігадовага Сярожу вымушаны былі аддаць у дзіцячы прытулак. Жывучы ў прытулку, хлопчык лепш за ўсіх скончыў пачатковую школу, а затым гарадское вучылішча.

Горад Уржум быў шэры, непрыкметны горад царскай Расіі. Але была тут свая знаць—купцы і паліцэйскія. Яны заўсёды добра апраналіся, ездзілі ў прыгожых брычках, мелі ўласныя дамы. Вельмі ўважлівы і ўдумлівы Сярожа хутка прыкмеціў гэта, і тады перад ім паўстала пытанне: чаму гэта так? Чаму адны жывуць добра, багата, а другія пухнуць з голаду і апрануты ў лахманы? Людзі баяліся адказваць на такое пытанне хлопчыка, але ён і сам пачынаў ужо разумець чаму.

У 1901 годзе Сяргей Кіраў паступіў на вучобу ў Казанскае рамесленае вучылішча і тут упершыню пазнаёміўся з рэвалюцыйна настроенымі рабочымі. І ён зразумеў: каб усе добра жылі, трэба скінуць цара і яго служкаў.

Мінуў год. Сяргей Кіраў прыехаў з Казані ў Уржум на канікулы. Разам са сваім другам Санькам Самарцавым ён зайшоў да палітычна зняволеных (ссыльных) і папрасіў у іх што-небудзь пачытаць. Яму далі бальшэвіцкую газету «Искра». Гэтая газета зрабіла вялікае ўражанне на Кірава і Самарцава. З яе яны даведаліся, што ўсюды ў Расіі ўспыхнулі забастоўкі, што царскі ўрад пасылае супроць рабочых і сялян войскі і паліцыю.

Праз некалькі дзён ссыльныя прапанавалі Кіраву і Самарцаву зрабіць друкарскі станок і надрукаваць на ім рэвалюцыйныя лістоўкі. Кіраў і яго сябра з радасцю прынялі гэтую прапанову.



*С. М. Кіраў і Г. К. Орджанікідзе ў гады грамадзянскай вайны.*

Дні і ночы працавалі Сяргей і Санька. І вось, аднойчы ноччу, у старой лазні, яны надрукавалі шмат лістовак. Гэтыя лістоўкі яны раскідалі па горадзе і нават занеслі ў двор самога павятовага спраўніка.

Дарэмна гайсала пасля па горадзе паліцыя, дарэмна вышуквала патаемную друкарню—ні друкарні, ні друкароў яна не знайшла.

З гэтага часу Сяргей Міронавіч Кіраў стаў на шлях актыўнай рэвалюцыйнай барацьбы.

У 1905 годзе жандармы арыштавалі Кірава. У адзіночнай камеры Томскай турмы Сяргей Міронавіч Кіраў правёў больш двух год. Але турма не зламала волі выдатнага рэвалюцыянера. Па-ра-

нейшаму кіраваў ён рэвалюцыйным рухам у Сібіры і Владзікаўказе, выступаў на рабочых сходах, мітынгах і дэманстрацыях, заклікаў народ на барцьбу з памешчыкамі і капіталістамі. Ён арганізоўваў друкарні, пісаў і распаўсюджваў рэвалюцыйныя лістоўкі.

Кіраў ніколі не ведаў страху ў барацьбе з ворагамі. Ён заўсёды знаходзіў выйсце з самага цяжкага становішча, заўсёды дамагаўся перамогі. Калі на маладую Совецкую рэспубліку напалі белагвардзейскія банды, таварышы Ленін і Сталін даручылі Кіраву кіраваць абаронаю Астрахані. Кіраў сказаў: «Пакуль у Астраханскім краі ёсць хоць адзін комуніст, вусце ракі Волгі было, ёсць і будзе совецкім». Сваё абяцанне ён стрымаў—Астрахань засталася ў руках Советаў.

Пад кіраўніцтвам таварыша Кірава ў грамадзянскую вайну войскі ІІ-й арміі прымалі ўдзел у вызваленні Царыцына і потым зрабілі выдатны паход на Паўночны Каўказ, дзе разграмілі дзенікінскія белагвардзейскія полчышчы.

У 1921 годзе Сяргей Міронавіч Кіраў быў абраны сакратаром Цэнтральнага Камітэта комуністычнай партыі Азербайджана.

Са снежня 1925 года Сяргей Міронавіч Кіраў пачаў узначальваць ленінградскую арганізацыю большэвікоў.

Вялікія заслугі таварыша Кірава ў гаспадарчых перамогах нашай краіны. Пры яго актыўным удзеле быў пабудаваны Беламорска-Балтыйскі канал імені Сталіна, шмат электрастанцый, фабрык і заводаў.

Кірава любілі і малыя і дарослыя. Ён быў другам усяго нашага совецкага народа. Сяргей Міронавіч Кіраў заўсёды клапаціўся аб дабрабыце рабочых і сялян, заўсёды змагаўся за тое, каб наш народ жыў яшчэ лепш, заможней і культурней. Кіраў вельмі любіў дзяцей. Часта наведваў ён школы, дзіцячыя дамы і клубы. Ён па-сяброўску размаўляў з дзецьмі, цікавіўся іх жыццём і вучобай, заклікаў іх выдатна вучыцца, быць прыкладнымі ў дысцыпліне...

«Мы павінны дабіцца...—казаў ён,—каб юнак і дзяўчына, якія скончылі сярэднюю школу, ведалі па-сапраўднаму фізіку, хімію, матэматыку, ведалі родную мову, ведалі па-сапраўднаму гісторыю, геаграфію, каб яны ведалі па-сапраўднаму хаця-б адну замежную мову».

«Дысцыпліна,—казаў Сяргей Міронавіч Кіраў,—гэта парадак ва ўсім, гэта выкананне загада без усякіх размоў, гэта—дапамога нявопытным і выхаванне іх. Нам патрэбна, зразумела, не такая дысцыпліна, якая была ў прусакоў, калі ён стаіць, вочы выпучыць і чакае, калі яго павернуць направа ці налева. Нам патрэбна свядомая, рэвалюцыйная, найстражэйшая дысцыпліна»...

Совецкія школьнікі павінны заўсёды памятаць гэтыя словы таварыша Кірава.

Калі ў 1941 годзе на нашу краіну напалі фашысцкія бандыты, Ленінград з'явіўся для іх тым рубяжом, на якім знайшлі сабе смерць тысячы гітлераўскіх салдат і афіцэраў. Як не шалелі ворагі, але ўварвацца ў Ленінград ім не ўдалося. І ў гэтым вялікая заслуга Сяргея Міронавіча Кірава, бо яшчэ ў першую сталінскую пяцігодку пад яго кіраўніцтвам было створана шмат заводаў, якія ў Айчынную вайну змаглі выпускаць для нашай арміі самую рознастайную зброю. Ужо тады Сяргей Міронавіч Кіраў клапаціўся аб абароне нашай бацькаўшчыны.

Ворагі народа ненавідзелі Сяргея Міронавіча Кірава, бо ў ім яны бачылі сапраўднага ленінца, нястомнага барацьбіта за шчасце совецкіх людзей. 1-га снежня 1934 года яны здрадзейскі забілі Кірава. Совецкі народ адказаў на гэтае забойства яшчэ большым яднаннем вакол партыі Леніна—Сталіна.

Кіраў жыў і жыве сярод нас. Ён жыве ў тых выдатных справах, да якіх заклікаў і якія штодзённа стварае і будзе ствараць совецкі народ.

# ЮНАМУ ПІОНЕРУ

### Звеннявы сцяжок

Кожнае піонерскае звяно мае свой сцяжок. Форма сцяжка — трохкутнік вышынёю 28 сантыметраў і даўжынёю 59 сантыметраў.

Сцяжкі могуць быць чырвоныя, сінія, зялёныя, блакітныя, ружовыя і фіялетавыя.

Колер сцяжка вызначае совет дружыны. Усе звенні аднаго атрада маюць аднолькавы колер сцяжкоў.

Сцяжок носіць правафлангові піонерскага звяна. Сцяжкі выносяцца на піонерскія парады, агляды, злёты, на дэманстрацыі.

Звеннявыя сцяжкі захоўваюцца ў пірамідзе сцягоў і піонерскіх атрыбутаў.





### Знакі адрознення піонерскага актыва

Для членаў і старшынь советаў дружын і атрадаў, для важатых звенняў і піонераў-інструктароў устаноўлены знакі адрознення—палоскі на левым рукаве вышэй локця.

Старшыня совета дружыны носіць тры палоскі, члены совета дружыны і старшыня совета атрада—дзве палоскі, члены совета атрада, важатыя звенняў і піонеры-інструктары носяць адну палоску.

Палоска—чырвонага колеру. Шырыня яе — 1 сантыметр, даўжыня — 4 сантыметры.

### Барабан і горн

У кожнай піонерскай дружыне, у кожным піонерскім атрадзе павінен быць барабан і горн.

Барабан патрэбны ў паходах і дэманстрацыях. Горн служыць для склікання піонераў, падачы сігналаў і каманд. Гарніст падае сігналы па распараджэнню важатага і старшыні совета атрада, а таксама ў тых выпадках, калі сігналы загадзя прадугледжаны праграмай збора, пахода, ваеннай гульні ці рэжымам піонерскага лагера.

Гарніст павінен умець даваць наступныя сігналы: «увага», «збор», «пад'ём», «абед», «сустрэча», «трывога», «хімічная трывога», «да сну», «адбой», «пад'ём сцяга», «паходны марш».





# Гісторыя рускай гарматы

Першыя артылерыйскія стрэлы прагрымелі пры князі Дзімітрыі Данскім—вядомым пераможцы татар на Кулікавым полі.

З года ў год, з стагоддзя ў стагоддзе расла сіла айчыннай гарматы. Совецкая артылерыя памножыла баявую славу рускіх бамбардзіраў.



1. Гэта бранявая пішчаль часоў Івана III страляла ядрамі, абкаванымі свінцом. Яе адлівалі першыя рускія гарматнікі Іван і Васіль Якаўлевы.



2. Пры Іване III у Маскве быў пабудаваны Пушачны двор, дзе выраблялiся гарматы. З майстроў Пушачнага двара асабліва вылучаўся таленавіты ліцейшчык Андрэй Чохаў, які адліў шмат выдатных гармат. Чохаў працаваў на выплаўцы гармат 40 год. Упершыню імя яго з'явілася на пішчалі (старажытная зброя) у 1577 годзе.

У 1586 годзе Чохаў адліў вядомую ўсяму свету «Цар-пушку». Гэта—сценабітная гармата, і страляла яна каменнымі ядрамі. Кожнае ядро важыла 800 кілограмаў, а сама гармата—39 тон.

Цяпер «Цар-пушка», як гістарычная сведка магутнасці старажытнай рускай артылерыі, знаходзіцца ў маскоўскім Крэмлі.



3. Аглушальны стрэл. З меднага ствала, разам з слупом дыма і полымя, вылятаюць камені і кавалкі гарачага метала.

Такія гарматы-марціры ўжываліся ў Расіі ў пачатку XVII стагоддзя пры асадзе гарадоў і крэпасцей. З іх стралялі і запальваючымі снарадамі.



4. Вось палкавая гармата Пятра I, якая біла шведаў каля 250 год назад.

5. Гэта адна з гармат часоў Барадзіна. Міхаіл Іларыёнавіч Кутузаў пісаў, што руская артылерыя, нанёсшая цяжкія страты ворагу, прымусіла змоўкнуць



яго батарэі, пасля чаго ўся варожая пяхота і кавалерыя адступіла.



6. Афіцэр падае каманду:
— Агонь!

З замаскіраванай у кустах гарматы вылятае снарад. Такія гарматы пракладалі дарогу пяхоце ў першую сусветную вайну ў час выдатнага Брусілаўскага прарыва.



7. А гэта—наша родная, совецкая самаходка. Яна сказала сваё вогненае слова і пад Курскам, і пад Белгарадам, і на Вісле, і на Одэры, і ў Берліне!

# ДЗЕНЬ АРТЫЛЕРЫІ

У туманную раніцу 19 лістапада 1942 года артылерыя Паўднёва-Заходняга і Данскога фронтаў пачала магутнае артылерыйскае наступленне пад Сталінградам. А праз чатыры дні—23 лістапада—былі поўнасцю акружаны нямецкія войскі пад Сталінградам. Пасля ўпартых баёў нашы войскі знішчылі і ўзялі ў палон 330 тысяч варожых салдат і афіцэраў.

19 лістапада—пачатак гістарычнай Сталінградскай бойкі, у якой совецкая артылерыя адыграла вельмі вялікую ролю. Адзначаючы заслугі артылерыі і артылерыстаў, Совецкі ўрад пастанавіў лічыць 19 лістапада Днём артылерыі.

Сваім знішчальным агнём артылерыя расчышчала шлях пяхоце, кавалерыі і танкам у жорсткіх баях з нямецкімі захопнікамі.

Артылерыя была той сілай, якая дапамагла Совецкай арміі спыніць ворага на подступах да Масквы і Ленінграда, разграміць яго пад Сталінградам і Варонежам, пад Курскам і Белгарадам, Харкавам і Кіевам.

У 1945 годзе залпам 22000 совецкіх гармат і мінамётаў пачалася бойка за Берлін. 12 дзён совецкія артылерысты гramілі ворага. Не вытрымаўшы магутнага ўдара нашых войск, берлінскі фашысцкі гарнізон здаўся.

Совецкая артылерыя нанесла знішчальны ўдар і па імперыялістычнай Японіі.

Совецкі ўрад высока ацаніў подзвігі артылерыстаў у Вялікай Айчыннай вайне. Больш 1500 артылерыстам прысвоена званне Героя Совецкага Саюза; 1.200.000 артылерыстаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі Совецкага Саюза.



# У наступленні

*(З успамінаў юнага ўдзельніка Айчыннай вайны)*

*Мал. С. Раманава.*

У пачатку 1944 года наша часць стаяла ў абароне. Выпаў вялікі снег, можна было хадзіць на лыжах. Камандзір брыгады прыехаў у батальён лыжнікаў і загадаў, не гледзячы ні на што, узяць вышыню ля мястэчка Расоны, Полацкай вобласці.

Хутка пачаўся бой.

Камандзір узвода выклікаў мяне і радыста Матакова і сказаў:

— Пойдзеце на назіральны пункт і будзеце трымаць радыёсувязь з штабам!

— Есць!—адказалі мы, і кінуліся выконваць загад.

Мы ўзялі ўсё неабходнае і вечарам рушылі ў дарогу, а раніцою былі ўжо на месцы. Адшукалі выгодную пазіцыю, замаскіраваліся, наладзілі рацыю і пачалі размаўляць з каманднай радыёстанцыяй.

Наступаць было цяжка. Немцы ўмацаваліся і абараняліся ўпарта. Але нішто не змагло спыніць нашых байцоў. Вышыня была ўзята, і батальён пайшоў далей наперад. Загадалі і нам ісці ўслед. Мы пачалі перапаўзаць на новае месца.



Мароз быў вялікі, з ветрам. Але холаду мы не адчувалі. Матакоў поўз першым, я—за ім. Паўзці было цяжка: перашкаджала рацыя. Падняцца таксама нельга: немцы вялі абстрэл з артылерыі і кулямётаў.

Калі да траншэяў засталося метраў пяць, Матакоў прыўзняўся, але ў гэты час непадалёк ад яго разарваўся снарад. Асколак трапіў Матакову ў грудзі. Мяне толькі абсыпала снегам і крыху аглушыла.

Убачыўшы, што Матакоў ляжыць нерухома, я падпоўз да яго. Ён быў мёртвы. Цяпер я застаўся адзін. Нейкі час я яшчэ думаў, што рабіць, а потым хутка зняў з Матакова перадатчык і, паклаўшы яго на лыжы, пачаў штурхаць наперад. Рацыя важыла каля 25 кілаграмаў, і везці яе аднаму было нялёгка. Абліваючыся потам, я ўсё-такі дацягнуў яе да новага месца. Аб смерці Матакова далажыў камандзіру. Той выслухаў мяне і запытаўся:

— Зможаш падтрымліваць радыёсувязь адзін?

— Змагу, таварыш камбат,—адказаў я.

— Тады працуй,—сказаў ён.

Я настроіў рацыю. Аднаму працаваць было горш. Але я ведаў, што перада мною—вялікая і адказная задача, якую я павінен выканаць з чэсцю, як дарослы баец. І я прымаў і перадаваў усе загады камандзіра без ніякай затрымкі...

Калі бой скончыўся, камандзір аб'явіў мне падзяку.

*Віця ВАСЯНКОЎ.*

*г. Мінск.*
*Дзетдом № 10.*

# На нямецкай катарзе

*(З матэрыялаў, прысланых у кнігу беларускіх рэбят)*

*Мал. С. Раманава*

У сакавіку 1944 года Чырвоная Армія падышла да Віцебска. Немцы пачалі выганяць з горада мірнае насельніцтва.

«Старыя і малыя, хворыя і здаровыя— ўсе павінны неадкладна пакінуць горад Віцебск» — гаварылася ў загадзе нямецкага камандавання.

Але жыхары не хацелі пакідаць свой родны горад. Тады на вуліцах з'явіліся грузавікі з атрадамі СС. Грузавікі гэтыя спыняліся ля двароў, салдаты саскоквалі з кузаваў, забягалі ў дамы і, б'ючы прыкладамі, гналі людзей на вуліцу. Потым, пад узмоцненым канвоем, людзей гналі на станцыю, заганялі ў вагоны і дзверы знадворку заматывалі дротам.

У адным з такіх вагонаў апынуўся і я. Нас прывезлі ў польскі горад Граева, выгрузілі і пагналі ў лагер для медыцынскага агляду. Інвалідаў працы і хворых бракавалі: ім ставілі на лобе кляймо з нямецкім арлом.

У Граеве мы прабылі 3 дні. За гэты час нам далі адзін толькі раз па талерцы рэдкага супу. Хутка нас зноў пагрузілі ў вагоны і павезлі ў Германію. Мы трапілі ў нямецкі горад Дахау. У Дахау нас змясцілі ў канцлагер № 3, у якім мы прабылі паўтара месяца.

Жыццё ў лагеры было жудасным. Змяшчаліся мы ў цесных і брудных бараках. Спалі на нізкіх голых нарах. Кармілі нас вельмі дрэнна. Ад нечыстаты, недаядання, сырасці і страшэннай цеснаты людзі пачалі хварэць сыпняком. Ніякай дапамогі хворыя не атрымлівалі. У бальніцах нямецкія ўрачы атручвалі хворых, а ў дзяцей забіралі кроў для пералівання яе раненым сваім салдатам. Людзі мерлі кожны дзень дзесяткамі.



У лагеры нас сфатаграфавалі, узялі адбіткі пальцаў, а потым адправілі ў розныя месцы Германіі. Я трапіў у горад Фрайзінг, Мюнхенскай правінцыі. Нас укінулі ў цесны хлеў і замкнулі. Гэта была жудасная ноч. Мы ляжалі адзін на адным і ледзь не задохліся.

Раніцай з'явіліся гандляры. Нас выгналі на двор. Пачаўся гандаль людзьмі. Адбывалася гэта так. Пакупнік выбіраў чалавека, абмацваў мускулы, распытваў, на якой рабоце быў да вайны, што ўмее рабіць, і потым купляў яго.

Мяне купіў сельскі кулак. Ён прывёз мяне ў вёску, зрабіў на маім рукаве нашыўку «ОСТ» і адразу-ж прымусіў працаваць. Спачатку ён даручыў мне даглядаць коней. У мае абавязкі ўваходзіла: карміць, чысціць і запрагаць коней, вывозіць на тачцы гной, дастаўляць у стайню корм. У гэтага немца было 12 коней, і работы хапала па горла. Я не меў ні хвіліны адпачынку.

Потым немец пачаў пасылаць мяне яшчэ і на палявыя работы: я садзіў бульбу, рассыпаў угнаенне, скародзіў. Ад стомы і слабасці часта падаў. Але немец не звяртаў на гэта ніякай увагі. З кожным днём ён усё больш звярэў, біў мяне палкай, пакідаў без яды. Іншы раз мне здавалася, што я не вытрымаю і зусім звалюся. Але мне вельмі хацелася зноў апынуцца ў сваім родным горадзе, я верыў, што Чырвоная Армія вызваліць мяне і таму напружваў усе свае сілы, каб дажыць да гэтага дня.

І дзень гэты прышоў. 29 красавіка 1945 года мяне вызвалілі з нямецкай няволі. Цяпер я жыву і вучуся ў сваім родным горадзе — Віцебску.

*Ваня СЦЯПАНАЎ.*



*Ля станка.*

# МІНСКІ АЎТАМАБІЛЬНЫ ЗАВОД

На ўроку геаграфіі настаўнік выклікаў Алеся да карты.

— Пакажы мне гарады Савецкага Саюза, у якіх развіта аўтамабільная прамысловасць, — сказаў ён вучню.

Алесь узяў у рукі ўказку.

— Буйнымі аўтамабільнымі заводамі славіцца сталіца нашай Радзімы — Масква, — сказаў ён. — Тут працуюць два заводы — «АМО» і «ЗІС». Яны выпускаюць тысячы легкавых і грузавых машын. Апрача маскоўскіх заводаў, шырока вядомы ў Совецкім Саюзе Горкаўскі аўтамабільны завод імені Молатава.

Алесь адказаў вельмі добра і дакладна. Ён паказваў указкай тыя гарады, аб якіх гаварыў, называў паасобныя лічбы. Але вось яго ўказка спынілася на Мінску.

— Аўтамабільны завод будуецца цяпер у нас, у Мінску, — сказаў ён.

Але які гэта завод і калі ён будзе пабудаваны, Алесь не ведаў. Настаўнік паставіў Алесю адзнаку і сам пачаў апавядаць аб будаўніцтве Мінскага аўтамабільнага завода. Вось што расказаў настаўнік:

— За гады Сталінскіх пяцігодак у Беларусі было пабудавана шмат буйных прадпрыемстваў. Гарады нашай рэспублікі славіліся да вайны станкабудаўнічымі, трыкатажнымі, папяровымі і іншымі камбінатамі. Шмат якія з гэтых камбінатаў фашысты зруйнавалі. Яны вывезлі ў Германію абсталяванне фабрык і заводаў. Як толькі Чырвоная Армія вызваліла Беларусь, наш народ пачаў аднаўляць прамысловасць. У рэспубліцы ўжо адноўлена і працуе 6 000 прадпрыемстваў, будуецца некалькі гігантаў новай Сталінскай пяцігодкі. Сярод іх першае месца займае Мінскі аўтамабільны завод.

Падрыхтоўка да будаўніцтва гэтага завода пачалася яшчэ ў 1944 годзе. Аўтазавод з рабочымі пасёлкамі будзе нагадваць вялікі горад. Як і ў кожным рабочым гарадку, у аўтазаводскім раёне

будуць працаваць школы, кіно, больніцы, дзіцячыя сады, яслі, спартыўныя стадыёны.

Аўтазавод будзе мець шмат карпусоў. Галоўны з іх — зборачны. У яго прасторных і светлых цэхах і аддзяленнях будуць працаваць сотні рабочых.

Праца ў зборачным цэху складаная і адказная. Усе вытворчыя працэсы ў ім механізаваны. Магутныя электракраны свабодна і хутка падаюць дэталі. Праз увесь корпус цягнецца істужка канвеера. Вось, у самым пачатку істужкі падвешваецца рама, прызначэнне якой нават цяжка ўявіць. Рабочы націскае кнопку, і рама павольна рухаецца па лініі канвеера. На сваім шляху яна часта спыняецца, і тады рабочыя прымацоўваюць, падганяюць да яе розныя дэталі. І чым большы шлях праходзіць рама, тым больш «абрастае» яна living рознымі дэталямі. Мінае некалькі хвілін, да рамы прымацоўваюць колы, матор, кузаў — і вось ужо з канвеера сыходзіць гатовы аўтамабіль.

Можна здзівіцца: якім чынам за некалькі хвілін завод будзе выпускаць аўтамашыну? Каб зразумець гэта, трэба пацікавіцца ўсёй работай будучага завода-гіганта. Справа ў тым, што ўсе астатнія карпусы — амаль самастойныя заводы, якія будуць вырабляць самыя разнастайныя дэталі аўтамашыны. Тут — цэх шасі, прэсава-кузаўны, арматурна-радыятарны і іншыя. Ад самых дробных да самых буйных частак аўтамабіля будуць вырабляць гэтыя цэхі. Усе дэталі яны накіруюць у галоўны — зборачны — цэх, на канвееры якога за некалькі хвілін і ўзнікае аўтамабіль. Да зборачнага цэха, як да цэнтра, будзе збягацца ўсё, што зробяць тысячы рабочых завода.



*Аўтамабіль «МАЗ — 200».*



*М. Стрыжонак прышла на аўтазавод па пуцёўцы Ленінскага камсамола. Яна перавыконвае норму ў тры разы.*

Да канца Сталінскай пяцігодкі калона выпушчаных заводам аўтамабіляў зможа заняць дарогу ад Мінска да Масквы.

Аўтазавод дасць для нашай гаспадаркі выдатны аўтамабіль «МАЗ-200». Гэты аўтамабіль будзе перавозіць груз вагою ў 5—7 тон. Хуткасць яго—60 кілометраў у гадзіну. Аўтамабіль «МАЗ-200» — вельмі зручны па сваёй пабудове, моцны і можа хадзіць па любых дарогах.

Галоўны канструктар Мінскага аўтамабільнага завода таварыш Кокін паказваў мадэль машыны «МАЗ-200» у Крэмлі таварышу Сталіну. Таварышу Сталіну спадабалася новая машына. Ён уважліва агледзеў яе, сеў нават за руль, каб упэўніцца, ці зручна будзе працаваць шоферу, і зрабіў свае заўвагі, як яшчэ лепш удасканаліць машыну.

У 1948 г. Мінскі аўтазавод выпусціць першую партыю аўтамабіляў.

**Е. Садоўскі, Л. Байдакоў.**

# Аляксандр Ісачанка

У Вялікай Айчыннай вайне комсамольцы Беларусі гераічна абаранялі сваю совецкую Радзіму, знішчалі лютых нямецкіх захопнікаў. Дваццаці двум маладым воінам-беларусам прысвоена высокае званне Героя Совецкага Саюза.

Зараз, у мірны час, комсамол Беларусі актыўна ўдзельнічае ў аднаўленні нашай рэспублікі, у выкананні новай Сталінскай пяцігодкі.

Ніжэй мы друкуем нарыс аб слаўным сыне беларускага народа комсамольцу-герої Аляксандру Ісачанка.



*Аляксандр Ісачанка.*

Фашысты ўпарта рваліся да Гомеля.

Выконваючы ўказанні таварыша Сталіна, гамяльчане эвакуіравалі ў тыл фабрыкі і заводы, а самі стваралі народнае апалчэнне.

Комсамольцы і моладзь ішлі ў гарком комсамола і прасілі, каб іх паслалі на фронт біць фашыстаў. Шмат каму прыходзілася адказваць у просьбе — яны патрэбны былі ў тылу. Тыя, каму пашанцавала ісці на фронт, з радасцю заходзілі да сакратара гаркома комсамола развітацца.

Сакратаром Гомельскага гарадскога камітэта комсамола ў гэты час працаваў Аляксандр Лаўрэнцьевіч Ісачанка.

Хутка ў Гомелі быў арганізаваны полк народнага апалчэння. Душой гэтага палка была моладзь, комсамольцы. Разам з часцямі Чырвонай Арміі гамяльчане гераічна трымалі абарону.

Азвярэлыя фашысты кінулі на горад шмат дывізій і самалётаў. Часці Чырвонай Арміі вымушаны былі пакінуць горад.

У гэты-ж час у Новабеліцкім лесе пачаў дзейнічаць партызанскі атрад «Большэвік».

Адным з байцоў гэтага атрада быў Аляксандр Ісачанка.

Ворагі нідзе не мелі спакою. Сёння на электрастанцыі ўзарвалася дынамамашына, заўтра на аэрадроме згарэў самалёт... На вуліцах Гомеля знаходзілі забітых нямецкіх афіцэраў. На дарогах нямецкія машыны ўзрываліся на мінах...

Гэта помсціў Гомель. Гэта помсціла ворагу Беларусь.

* * *

Партыйная арганізацыя атрада дала заданне падрыўной групе перашкодзіць руху немцаў на чыгуначным участку Жлобін — Гомель. Заданне партыйнай арганізацыі для комуністаў і комсамольцаў — гэта закон.

Павёў групу Аляксандр Ісачанка. Дарога была немалая і цяжкая. 200 кілометраў трэба было ісці да чыгункі ды яшчэ несці на сабе тол.



Рэйкавая вайна.

З карціны мастака С. Раманава.

Сем сутак ішлі падрыўнікі. Ішлі праз балоты, лясы, рэкі, пад дажджом, мокрыя. Цяжка было, але яны ішлі. Наперадзе была чыгунка, па ёй ехалі немцы на фронт; трэба было не дапусціць іх да фронта, знішчыць тут, у тылу.

Цёмнай ноччу партызаны падклалі пад рэйкі тол. Цяпер трэба было чакаць, пакуль не ўзарвецца эшалон.

Хвіліны здаваліся гадзінамі. Цэлы дзень тут ішлі паязды, а зараз не чуваць іх. Холадна ляжаць на мокрай траве...

Раптам пачуўся шум... А праз некалькі хвілін у начной цішы раздаўся страшэнны выбух.

Разведка выявіла, што група Аляксандра Ісачанкі каля вёскі Патапаўка, Буда-Кашалёўскага раёна, пусціла пад адкос нямецкі эшалон. Забіты і ранены 1.500 гітлераўцаў.

— Вось гэта аперацыя! — гаварылі ўсхваляваныя партызаны.

Праз два дні Ісачанка пусціў пад адкос яшчэ два нямецкія эшалоны: адзін з баявой тэхнікай, другі — з жывой сілай.

* * *

Аляксандр Ісачанка не любіў сядзець на месцы, заўсёды шукаў сустрэчы з ворагам.

Нехапала толу. А без толу нельга пускаць пад адкос варожыя эшалоны. Ісачанка збірае нямецкія снарады і выплаўляе з іх тол. Небяспечная гэта справа. Але Ісачанка не лічыцца ні з чым. Любоў да радзімы ён ставіць вышэй усяго.

Па прыкладу Ісачанкі пачалі выплаўляць тол са снарадаў і іншыя камсамольцы. І нямецкія эшалоны ляцелі пад адкос.

Падрыўная група Ісачанкі пусціла пад адкос шэсць эшалонаў. Аднак Ісачанка ўсё рабіў для таго, каб павялічыць гэты лік.

Цяжкі быў той час. Немцы руйнавалі прыгожыя гарады Беларусі, забівалі савецкіх людзей. Усюды стаялі шыбеніцы, душагубкі, лагеры смерці. Але беларускі народ не пакарыўся ворагу. Ён бязлітасна помсціў захопнікам.

Ісачанка выступаў на сходах моладзі, гаварыў, што нядоўга засталося немцам жыць на нашай зямлі, што яны будуць знішчаны. Чырвоная Армія хутка вернецца з перамогай. А нам патрэбна тут, у тылу, дапамагаць Чырвонай Арміі знішчаць ворага.

Ісачанка клікаў моладзь на бой і сам у баях заўсёды быў першым да апошняй хвіліны свайго жыцця...

* * *

2 студзеня 1944 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Совета ССР Аляксандру Лаўрэнцьевічу Ісачанка было пасмертна прысвоена званне Героя Совецкага Саюза.






*Мал. Ф. Круглянскага*

А. ЦІМОШКА

Месяц былі мы ў няспынных баях і паходах. Пад агнём ворага фарсіравалі Дняпро, Бярэзіну і шмат невялікіх рэчак. Увесь гэты час мы не ведалі адпачынку і амаль не спалі. Пад Бабруйскам-жа, калі ішоў разгром варожай арміі, наш узвод двое сутак выбіваў нямецкія атрады з лясоў. За гэты час передавыя часці Чырвонай Арміі апынуліся далёка наперадзе, і нам трэба было дагнаць іх...

Ведучы ў лясах баі, мы лазілі ўсюды— па балотах, густых хмызняках. Цяпер балелі галава, ногі, рукі. Страшэнна хацелася спаць. Але мы ўсё-ж ішлі і ішлі доўга, не зважаючы на спякоту.

Першым не вытрымаў Нічыпар Гарэзка. Расшпільваючы каўнер сваёй гімнасцёркі, ён сказаў:

— Адпачыць-бы...

Мы глянулі на лейтэнанта, камандзіра нашага ўзвода, і чакалі, што ён скажа. Лейтэнант падумаў, зірнуў на гадзіннік.

— На пятнаццаць хвілін прывал! — скамандаваў ён.

Мы звярнулі з дарогі, зайшлі ў нейкі хмызняк і зваліліся на зямлю. Якая радасць — пятнаццаць хвілін адпачынку! Многія скінулі свае салдацкія торбы і падклалі іх пад ногі, многія, седзячы, курылі і зрэдку перамаўляліся.

Раптам па той бок хмызняка раз за разам грымнула некалькі стрэлаў і потым за кустамі мы пачулі трэск сухога ламачча і нечыя крокі. Можа гэта былі немцы? Іх шмат яшчэ хавалася ў гэтыя дні па лясах. На ўсякі выпадак кожны ўзяў у рукі свой аўтамат.

Мінула хвіліна. Крокі чуліся ўсё бліжэй і бліжэй. І вось, з кустоў проста да нас вышаў... хлопчык. Першае, што кінулася нам у вочы — яго адзенне. На ім былі нейкія брудныя лахманы без рукавоў. Хлопчык быў босы, з худым пасінелым тварам і вялікімі вачыма. Ён падышоў да нас, спыніўся. Пазіраючы некуды ўгору, сказаў з жалем у голасе:

— Мамку забілі...

Тут мы ўспомнілі стрэлы і падхапіліся. Лейтэнант запытаўся:

— Хто забіў?

Хлопчык моўчкі перавёў на нас свой позірк. У яго вачах свіцілася туга і вялікая пакута.

— Яны забілі... Немцы?

— А то хто-ж... Два дні назад забілі, — пачаў скупа апавядаць хлопчык. — Мы ў нямецкім лагеры сядзелі, пад Мінскам. А як нашы падышлі — яны ўсіх забівалі...

Ён гаварыў і зноў пазіраў некуды ўверх, у адну кропку. Пэўна, што перад яго вачыма ўсё яшчэ стаяў той жудасны момант, калі забівалі яго мамку.

— Куды-ж цяпер ты ідзеш? — запыталіся мы ў яго.

— Пад Глуск іду, да цёткі.

— Можа ты есці хочаш? — запытаўся лейтэнант.

— Не хачу... Тут недалёка кухня стаіць, дык мяне накармілі. І з нагана далі пастраляць... Пайду ўжо, мне багата ісці трэба...

Мы яго не затрымлівалі. Мы яшчэ бачылі, як ён вышаў на дарогу, спыніўся і пачаў пазіраць на разбітыя нямецкія цягачы і гарматы, якія стаялі на дарозе і ў палях. Нам відаць была яго худая спіна, прыкрытая дзіравымі лахманамі.

Першым спахапіўся Нічыпар Гарэзка.

— Ну, хлопцы, а чаго-ж мы стаім, — сказаў ён. — Ісці трэба. Даганяць трэба гадзюк...

І мы заспяшаліся...

Так і не адпачыўшы, мы зноў ішлі па дарозе ў той бок, дзе ўсё выразней і гучней грымела артылерыя, а перад нашымі вачыма ўсё яшчэ стаяў хлопчык у лахманах — дзіцё з-пад Глуска.









## ПАСЛЯ ЗАНЯТКАЎ

Станіслаў, Люба і Бронік Карпенка вучацца ў школе № 13 горада Віцебска. Станіслаў вучыцца ў шостым класе, Люба—у трэцім, а самы маленькі Бронік—у першым. Па ўсіх прадметах рэбяты атрымліваюць толькі «пяцёркі» і «чацвёркі».

Звычайна пасля заняткаў, выканаўшы дамашнія заданні, яны нясуць свае сшыткі да маці на праверку. Потым рэбяты дапамагаюць маці ў хатняй рабоце. Люба з ахвотай працуе на кухні. Стасік, як старэйшы, носіць у кватэру дровы. Маленькі Бронік даглядае парсючка і вучыць свайго выхаванца Джэка вышукваць міны. Хутка ён перадасць Джэка байцам Савецкай арміі.

Фота А. Дзітлава.









Піянеркі жаночай сярэдняй школы № 1 гор. Мінска Лена Філіповіч, Мая Калодкіна і Валя Кальчынская за выпускам чарговага нумара насценгазеты.
Фота А. Дзітлава

# ПЕРАД ЗАСЛОНАЙ

Ужо ўсе вучні сабраліся ў школьным клубе, а вечар мастацкай самадзейнасці не пачынаўся. За заслонай чуваць быў перастук малаткоў, прыглушаныя ўсхваляваныя галасы.

У клубе рабілася шумна, гледачы пачалі сумаваць. Раптам заслона ледзь прыўзнялася і з-за яе вышаў чалавек. Ён быў апрануты ў нейкі смешны касцюм, так што ўсе адразу звярнулі на яго ўвагу. Падняўшы ўгару палец, чалавек запытаўся:

— Чуеце?

Школьнікі настаражыліся, у клубе стала ціха. А чалавек казаў:

— Я—Чарадзей-Дабрадзей. І скажу вам па сакрэту, што гэта нехта спіць. Ведаеце хто?

Што ён кажа—гэты Чарадзей-Дабрадзей? Што ён чуе? І ўсе зацікавіліся Чарадзеем-Дабрадзеем. У адзін момант ён завалодаў увагай усёй залы.

— А я ведаю, хто гэта спіць,—упэўнена сказаў Чарадзей-Дабрадзей.—Гэта Ніна Хахарава ў суфлёрскай будцы задрамала. А пакуль яна прачнецца, я вам пакажу фокусы.

Усе з нецярплівасцю чакалі, што пакажа Чарадзей-Дабрадзей, нават і пра спектакль забыліся. Ніхто пакуль што не здагадваўся, што Чарадзей-Дабрадзей—гэта іх сябра Міша Кавалёў, вучань 7 класа.

Ён так спрытна паказваў фокусы, загадваў загадкі, арганізоўваў гульні, што час праходзіў вельмі весела і непрыкметна. У антракце ніхто з рэбят не хацеў выходзіць у калідор—усе чакалі, калі зноў з'явіцца Чарадзей-Дабрадзей.

Паспрабуйце, рэбяты, і вы развесяліць гледачоў у той час, калі апушчана заслона, як гэта рабіў Міша Кавалёў.

Некаторыя гульні і зацеі Мішы Кавалёва мы змяшчаем ніжэй. Прысылайце нам свае загадкі, фокусы, гульні. Лепшыя з іх мы змесцім у часопісу.

## ЗАГАДКІ

Зараз я загадаю некалькі загадак. Той, хто знойдзе адказ, павінен падняць руку і з майго дазволу сказаць адгадку.

За кожны правільны адказ я залічу яму ачко. Той, хто набярэ больш ачкоў, будзе пераможцам у гульні.

Вось вам загадкі:

Удзень акно разбіта, уночы ўстаўлена. (Палонка зімой.)

Крутая гара, што ні крок, то нара. (Лесніца.)

Стаіць пры дарожцы на адной ножцы. (Грыб.)

Без дарожак і без ножак, а бяжыць як толькі можа. (Тэлеграф.)

Па сенажаці паўзе, сакоча, траву грызе. (Касілка.)

## ПЫТАННІ-ЖАРТЫ

У пакоі гарэла сем свечак. Дзве свечкі я патушыў. Колькі засталося? (Дзве, бо пяць згарэла.)

Што стаіць сярод Волгі? (Літара «Л»).

Куды бяжыць заяц, калі ён прабяжыць сярэдзіну лесу. (З лесу.)

## ЯК ПРАЙСЦІ ПРАЗ АДКРЫТКУ

Хто з вас можа выразаць у паштовай адкрытцы такую дзірку, каб праз яе мог пралезці чалавек?

Той, хто не ведае, як гэта зрабіць, здзівіцца і пачне з вамі спрачацца.




Тады вы складзіце адкрытку па лініі А—А і зрабіце на ёй надрэзы праз чвэрць сантыметра (глядзіце малюнак). Потым з другога боку паміж першымі надрэзамі зрабіце яшчэ некалькі надрэзаў і разрэжце адкрытку па лініі А—А, не кранаючы бакоў. Расцягніце ў руках вузкую палоску, і ў вас атрымаецца вялікі круг, праз які зможа пралезці чалавек.



Вясёлым самадзейным спектаклем сустрэнуць Новы год піонеры пачатковай школы пасёлка Міханавічы (Мінская вобласць). Рэбяты добра падрыхтаваліся да выступлення, прадумалі ўсю праграму навагодняга школьнага вечара.

**На здымку:** група ўдзельнікаў спектакля з дырэктарам **Г. В. Роліч.** Злева направа: **Жана Стасевіч, Алім Ігозін, Г. В. Роліч, Ліля Война, Ада Радзіевіч, Ваня Кандруцкі і Вера Храмалёва.**

**Фота А. Дзітлава.**

# Героі Соцыялістычнай Працы

Г. ТУРЧЫНОВІЧ

Мал. Ф. Круглянскага

Нідзе праца не карыстаецца такой павагай, як у нашай краіне. Кожны грамадзянін Совецкага Саюза лічыць вялікім гонарам працаваць на карысць свайго народа, сваёй соцыялістычнай дзяржавы. Таварыш Сталін сказаў: «Праца ў Совецкім Саюзе—справа гонару, доблесці і геройства».

Той, хто чэсна і самаадданна працуе, карыстаецца ў нас усеагульнай павагай, а людзей, якія праяўляюць гераічныя працоўныя подзвігі, совецкі ўрад адзначае самай высокай узнагародай: ім прысвойваецца званне Героя Соцыялістычнай Працы. Кожнаму Герою Соцыялістычнай Працы ўручаецца залаты медаль «Серп і молат», ордэн Леніна і грамата Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

Совецкаму народу вельмі добра вядомы імёны Герояў Соцыялістычнай Працы—канструктараў, вучоных, чыгуначнікаў, трактарыстаў, рабочых.

Сярод Герояў Соцыялістычнай Працы мы бачым і выдатных вучоных, і простых людзей з заводаў і калгасаў.

* * *

Калі Алена Чухнюк—маладая калгасніца з Гомельшчыны—рашыла ісці працаваць на чыгунку,—яна і не думала тады, што стане Героем. У яе было толькі моцнае жаданне працаваць чэсна, не шкадуючы сваіх сіл.

Дома яна сказала сваім бацькам:

— Я рашыла ехаць на курсы паравознікаў...

Старэнькая маці Анастасія Раманаўна здзівілася:

— Ты жартуеш, дачка? Дзе-ж гэта бачна, каб жанчына ды была машыністам.

Аднак Алена не жартавала. Стаць машыністам—гэта была яе мара. Праз



А. М. Чухнюк.

некалькі дзён Алена сабралася ў дарогу. Яе праводзілі дзяўчаты-комсамолкі.

— Вучыся-ж добра, — казалі яны на развітанні. — Працуй так, як працавала ў калгасе.

І Алена Чухнюк ніколі не забывалася на гэты наказ сваіх сяброўак. Паступіўшы на курсы, яна старанна і ўпарта вывучала складаную тэхніку. Да позняй ночы сядзела над кнігамі і чарцяжамі. І чым больш пазнавала машыну, тым больш вабіла яе прафесія машыніста. Хутка яна стала адной з лепшых вучаніц. Але ёй хацелася ведаць сваю справу яшчэ лепш, і яна па-ранейшаму праседжвала ночы над кнігамі.

Курсы Алена Чухнюк скончыла выдатна. Мара яе, нарэшце, збылася. У

1938 годзе яна стала машыністам таварнага поезда Гомельскага дэпо. І тут, на працы, яна была таксама адной з першых. Яна клапатліва даглядала свой паравоз, заўсёды дакладна, у час, дастаўляла саставы, гружаныя сельскагаспадарчымі машынамі, лесаматэрыяламі, ільном і хлебам. Працавала з захапленнем, часам зусім забываючыся на адпачынак.

Але хутка Алене Чухнюк давялося вытрымаць вельмі сур'ёзнае выпрабабаванне.

Пачалася вайна.

Калі Алена Чухнюк прывяла поезд у Буда-Кашалёўск, на станцыю наляцела варожая авіяцыя. Самалёты пачалі бамбіць эшалоны. Загараліся вагоны. Здавалася, кожная бомба несла нямінучую смерць. Аднак не аб смерці думала ў гэты час Алена Чухнюк. Яна рашыла што-б там ні было выратаваць свой састаў.

Мужна і спакойна манеўравала яна сваім паравозам, раскідваючы вагоны па розных пуцях. Немцы хутка заўважылі паравоз Алены Чухнюк і пачалі бамбіць яго. Але патрапіць у паравоз яны не змаглі — бомбы заўсёды рваліся збоку. Блізка свісталі асколкі, але Алена Чухнюк не звяртала на іх увагі. Яна ўздыхнула з палёгкаю толькі тады, калі выканала сваю працу.

Алена Чухнюк выратавала каштоўныя для фронта груз. Ніводзін вагон яе састава не быў пашкоджаны. Ваенны камендант станцыі паціснуў ёй руку і сказаў:

— Вялікае дзякуй вам, Алена Міронаўна. Вы зрабілі тое, чаго, здавалася, зрабіць ужо было немагчыма...

Шмат яшчэ пасля гэтага давялося перажываць Алене Чухнюк цяжкіх і небяспечных хвілін, але, як заўсёды, у такія часы яна думала не аб сабе, а аб той працы, якую ёй даручылі. І таму яна заўсёды выходзіла пераможцай. Яна вадзіла цягнікі з боепрыпасамі і ўзбраеннем, падвозіла байцоў і афіцэраў да самай перадавой лініі на Данскім і Сталінградскім фронтах, на Курскай «дузе». Алену Чухнюк заўсёды пасылалі туды, дзе было найбольш цяжка, бо ведалі, што яна выканае даручэнне.

Ёй горача паціскалі руку генералы і афіцэры, дзякавалі за своечасова дастаўлены каштоўны груз. Слава аб адважным машыністу Алене Чухнюк вельмі хутка абляцела ўсю краіну. Совецкі ўрад дастойна ацаніў яе працоўныя подзвігі ў час Айчыннай вайны і прысвоіў ёй званне Героя Социялістычнай Працы.

І вось яе выклікалі ў Маскву, у Крэмль. Упершыню за ўсю вайну ехала Алена Чухнюк не на паравозе, а ў вагоне, як пасажыр. Яе сэрца білася шпарка і ўсхвалявана. Гэта-ж заўтра яна зойдзе ў Крэмль, туды, дзе нястомна працуе вялікі Сталін, з чыім іменем на вуснах дапамагала яна біць ворагаў...

Міхаіл Іванавіч Калінін уручыў ёй высокую ўзнагароду. Атрымліваючы ўзнагароду, яна сказала з хваляваннем:

— Дазвольце, Міхаіл Іванавіч, запэўніць Вас, што я з чэсцю апраўдаю высокае званне. Я не пашкадую ні сіл, ні жыцця на карысць свайго народа.

Свае слова Алена Чухнюк стрымала. Яна ўдзельнічала ў вызваленні сваёй роднай Беларусі, Украіны. Яе паравоз прайшоў яшчэ шмат тысяч кілометраў.

Скончылася вайна, і Алена Чухнюк зноў вярнулася да мірнай працы. У 1945 годзе яна скончыла ў Маскве курсы сярэдняй тэхнічнай асветы і атрымала званне інжынер-лейтэнанта цягі.

У студзені гэтага года Алена Чухнюк вярнулася ў роднае дэпо. Тут яе сустрэла радасная вестка: гомельскія калгаснікі вылучылі яе кандыдатам, а потым аднадушна абралі дэпутатам Вярхоўнага Совета СССР.






*Пятро ВЕРШЫГАРА,*
*генерал-маёр, Герой Совецкага Саюза*

*Мал. В. Сухаверхава*

**У Айчынную вайну генерал-маёр П. П. Вершыгара камандаваў Першай украінскай партызанскай дывізіяй імені Каўпака. Гэтая дывізія, разам з усім партызанскім злучэннем Каўпака, правяла легендарны Сталінскі рэйд па тылах ворага. У часе рэйда дывізія пабыла і на Беларусі, у Палессі. Нямала нямецкіх салдат і афіцэраў, варожай тэхнікі і снаражэння знішчылі тут слаўныя каўпакоўцы. Аб усім гэтым П. П. Вершыгара апавядае ў сваёй кнізе «Людзі з чыстым сумленнем».**

**Ніжэй мы друкуем урывак з гэтай кнігі.**

— Хочаце, я раскажу вам пра сцяг нашага атрада—сказаў начштаба Базыма.

Ён прыкруціў у лямпе кнот, ссунуў на лоб акуляры і, пазіраючы ў акно, якое ззяла ў сіняватым святле месяца, задумліва пачаў:

— Было гэта ў канцы кастрычніка 1941 года. Атрад наш ужо сабраўся— без малога сто чалавек. Людзі звыкліся троху ў новым сваім становішчы. Прызвычаіліся да смерці, барацьбы, да ворага прызвычаіліся—адным словам, як кажуць, абстраляліся. Атрад у гэты час ужо косткаю ў горле немцам стаў. На дарогах да Пуціўля не толькі ноччу, але і днём не было ім спакою. Лепш за ўсіх працавалі нашы мінёры, ды і разведчыкі шчоўкалі немцаў і паліцыю. У Спашчанскім лесе мы абсталяваліся добра і, можна сказаць, нават вельмі добра. Выкапалі зямлянкі, лес разбілі на сектары абароны. У карту пазіраць не было ніякай патрэбы,—кожную купіну ведалі мы: па ўсёй акрузе, ва ўсіх сёлах і калгасах былі свае людзі.

Асабліва дапамагалі нам жанчыны. Жанчына і бялізну памые, і разведчыка захавае, і сама ў горад або на станцыю ў разведку сходзіць. Стварыўся ў нас такі жаночы актыў, і самым адказным і каштоўным чалавекам у ім была Салаўёва Кацярына.

Прыбягае яна аднойчы адвячоркам у лес. Чуем, наша Каця карову кліча. А гэта яе пароль *) быў. Выходжу я на гэты крык. Яна, задыхаўшыся, паведамляе: «Заўтра будуць на вас наступленне рабіць. Панаехалі ў Пуціўль танкі... Кажуць, будуць танкамі партызан знішчаць». «Больш нічога не скажаш?»— пытаюся. «Нічогай,—адказвае. «Ну, і за гэта дзякуй». Яна і пабегла.

Чакаем мы на другі дзень ворага, дарогі замініравалі. Толькі чакалі мы з аднаго боку, а яны—вось яны, ужо каля нашага лагера. Два нямецкіх танкі страляюць ва ўсе бакі і проста па лесе

*) Умоўны сігнал

пруцца. Павыскоквалі мы. Страляем. Спачатку без толку ўсё гэта рабілася, а потым дзед Каўпак каманду падаў: «Адстрэльвацца з-за дрэў і адыходзіць к балоту». Была ў яго, відаць, думка заманіць танкі ў балота. Так па ягонаму і вышла.

Заляцеў з разгону адзін танк у багну, забуксаваў, на пуза сеў і змоўк. Некалькі разоў стрэліў і зноў маўчок. Другі—цяжкі—да яго не дайшоў, пастаяў і пачаў разварочвацца назад.

«Эге,—думаем,—не ўсюды гэтая машына страшная». А самі за дрэвамі ляжым, абклалі, як мядзвяжатнік мядзведзя. Разварочваецца другі танк—і поўным ходам назад з лесу.

«Эй, шкада, уцячэ касалапы!»—кажу. «Не ўцячэ, — кажа Каўпак. — Я на выхад з лесу мінёраў паслаў. Замініраваць дарогу проста след у след». І сапраўды, не прайшло і дзесяці хвілін, — як бабахне! Толькі рэха нізінамі пайшло. Паслалі мы туды разведку, а самы першы танк вартуем, толькі ён ні гу-гу. Давай мы падпаўзаць. Паўзём бліжэй — маўчыць. Падпаўзлі яшчэ бліжэй — не адгукаецца. Падняліся па камандзе камісара з гранатамі. «Ура-а!»... А танк пусты. Экіпаж спалохаўся і на першым танку ўцёк. Тут і разведчыкі прыходзяць — другі цяжкі танк сапраўды на міне падарваўся ды яшчэ ў дадатак загарэўся. Значыць, ніхто з танкістаў з лесу не ўцёк, ды яшчэ мы з прыбыткам: зусім непашкоджаны нямецкі танк з поўным баявым запасам патронаў і снарадаў нам застаўся.

Пачалі мы ў вежу танка лезці, а там усякай усячыны поўна. І мыла, і шчотачкі, і ручнікоў вышытых, з пеўнікамі, абрус вышываны, мярэжкай упрыгожаны... З дна гэтага склада выцягвае Міця Чаромушкін, — ён у нас танкіст быў і потым на гэтым танку ваяваў, — выцягвае Чаромушкін загорнуты ў нямецкую плямістую плашч-палатку чырвоны сцяг. Разгарнулі мы яго. Не так, каб вельмі раскошны, але добры сцяг. Шоўкавы, пасярод герб вышыты залатымі ніткамі, з шнуркамі. Чытаем надпіс: «Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся! Піонерскі атрад сярэдняй школы...»

Як разгарнуў я яго, ды гэтыя словы прачытаў, паверыце, так мяне сляза і праняла. Тут Сямён Васільевіч, камісар наш, падыходзіць. Паказалі мы яму. «Напэўна, фрыцы ў Германію хацелі везці, як баявы трафей. Яшчэ і крыж зарабілі-б, — смяецца Міця Чаромушкін. — На тым яны і трымаюцца. Сцяг піонератрада заваявалі — думалі, гэтак-жа лёгка і партызан возьмуць».

Узяў камісар сцяг у рукі.

— Вось мы і вызвалілі цябе з няволі, піонерскі слаўны сцяг! Не было ў нашага атрада свайго сцяга, а цяпер будзе. У баю здабыты. — І сцяг пацалаваў. Усе, хто тут быў, падышлі і таксама пацалавалі сцяг.

Вечарэла. Сабраліся мы ў зямлянках, вынікі боя абмеркавалі і парашылі, як сказаў наш камісар: лічыць піонерскі сцяг — сцягам нашага атрада. На другі дзень нашы дзяўчаты пад гербам простымі шэрымі ніткамі вышылі: «Пуціўльскі партызанскі атрад». І вось ужо другі год, як пад гэтым сцягам мы ходзім».



# КРЫВЫ ШЛЯХ



*(Працяг*)*

*Янка МАУР* | *Мал. А. Волкава*

## ВЯЛІКАЕ ВАНДРАВАННЕ

Бацька мой паходзіў з рабочай гарадской сям'і і лічыўся мешчанінам горада М. Такім чынам і я з мамкай зрабіўся «мешчанінам» горада, якога ніхто з нас не ведаў і не бачыў. Калі бацька памёр, нам трэба было аформіцца, хто-ж мы такія, ці мяшчане незнаёмага горада, ці сяляне вёскі Гнілушкі? Хоць мешчанін лічыўся вышэйшым за «мужыка», але мы (маці нават раілася са мной) захацелі застацца сялянамі, няхай сабе і без зямлі. Для гэтага трэба было ехаць у горад М., каб выпісацца адтуль. А пра гэта і думаць не было чаго. Ніякіх грошай не хапіла-б на такую дарогу.

І вось цяпер, калі мы навучыліся жабраваць, маці і парашыла, жабруючы, пайсці разам са мной у М. Прайсці трэба было кілометраў трыста. Але гэта нас не палохала—за лета паспеем схадзіць туды і назад.

Так пачалося маё вялікае падарожжа. Тады я сваімі вачыма ўбачыў, які вялікі свет ёсць па-за Гнілушкамі. Тады я ўбачыў і розных паноў, і маёнткі, і гарады, і цудоўныя куткі прыроды, нават лепшыя за лясы і балоты вакол Гнілушак.

Падарожжа для мяне было няцяжкім. Маці сачыла, каб я не змарыўся, і мы спыняліся, дзе хацелі і колькі хацелі. Часам у якім-небудзь фальварку маці наймалася на работу на некалькі дзён, і я некалькі дзён жыў зусім у новым незнаёмым асяроддзі. Але дзіўная рэч—у мяне зусім не засталося ўражанняў ад паасобных людзей. Затое рознастайныя і прыгожыя малюнкі прыроды і цяпер стаяць у маіх вачах. Відаць, для прыроды я быў свой брат ,а людзі былі для мяне далёкія, чужыя.

Праўда, сяляне былі да нас добрымі, яны шчыра прымалі нас, давалі, што маглі, але гэта была з'ява масавая, звычайная і ніякага ўражання на мяне не рабіла.

У адным фальварку мы натрапілі на такі цуд: у бараку, чорным і брудным, ля дзвярэй стаяў вялікі цэбар з малаком, і кожны, хто хацеў, мог піць гэтае малако, колькі ўлезе. Піў і я гэтае малако, нават больш, як магло ўлезці. Але гэты цуд мы зразумелі: малако было пераганнае, яго давалі жывёле і ў тым ліку рабочым.

Памятаю яшчэ, як у адным мястэчку мы падышлі да багатага крамніка. Ён стаяў каля сваёй крамы, важны такі, з вялікай сівой барадой, у чорным сурдуце.

Маці штурхнула мяне пад бок, каб я пацалаваў яму руку, і пачала прасіць:

— Паночку... памажыце...

Я ўжо даўно заўважыў, што маці часта ашуквае мяне: калі бацюшка, ксёндз ці якая пані, то яна цалуе руку разам са мной, а калі што якое, то яна штурхае мяне, а сама не цалуе. Я бачыў, што і тут яна не хоча цалаваць, і хацеў быў заўпарціцца, але дзядзька сам падсунуў мне руку,—і прыйшлося пацалаваць.

— Гэта твой сын?—спытаў ён маці.

— Але, паночку. Адзіны.

— А муж ёсць?

— Няма, памёр.

— Адкуль вы?

— З Гнілушак. Пагарэлі мы, вось папера.

Ён узяў паперу, паглядзеў і кажа:

— Што ў вас пагарэла?

— Усё, паночку. Усё, што толькі мелі.

— І хата, і хлявы?

— Хаты ў нас зусім і не было.

— А зямлі многа?

— І зямлі няма, нічога няма.

— Дык што-ж у вас згарэла?

— Усё, што мелі: адзенне, рэчы. Засталіся, як стаім. Не ведаю ўжо, як і жыць, паночку.

— А сваякоў няма?

— Калі хто ёсць, то такая-ж галота, як і мы.

Я слухаў усё гэта і радаваўся. Такі ласкавы пан, такі ўважлівы, ва ўсё ўваходзіць—пэўна мяркуе адпусціць якую саракоўку.

— Чаму-ж ты не працуеш?—пытаўся ён далей.

---

*) Пачатак гл. у №№ 3, 4, 5—6, 7, 8—9, 10.

— Ох, і як яшчэ працую, паночку. Ды толькі цяпер у нас вялікая дарога—у горад ідзем.

— Чаго?

— Ды перапісацца трэба. Калі муж памёр...

І яшчэ, і яшчэ пытаўся ён, а заплаціў за гэта... дзве капейкі! Мусіць вылічыў, што жабракам трэба даваць капейку, а двум—дзве.

Як-жа-ж я шкадаваў, што пацалаваў яму руку!

Аднаго разу мы праходзілі каля маёнтку нямецкага барона. Маёнтак быў абнесен цудоўнай жалезнай агарожай, на браме былі чорныя львы. За агарожай векавыя дрэвы, сад і кветкі, кветкі. А сярод зеляніны дом, нібы царква, толькі большы і багацейшы. Доўга мы стаялі каля агарожы і глядзелі праз краты. Тамака жыве пан, важнейшы і за пісара, і за пастаўніка, і за прыстава... Які ён?.. Што ён есць?.. Як спіць?... Сюды сунуцца за міласцінай мы ўжо не адважваліся.

Раптам па дарожцы сада зацокалі конскія капыты і паказаліся двое коней—адзін чарнюткі, другі бялюткі. На чорным сядзеў пан з нейкай дзіўнай чорнай бліскучай каструляй на галаве, а на белым сядзела пані з такой самай маленькай каструляй. Твар яе быў пакрыты чорнай сеткай. Сядзела яна на кані бокам, а чорная спадніца спускалася аж каню пад бруха. Пан нахіляўся да яе, нешта казаў, і яны абодва смяяліся. Коні павольна прайшлі міма нас.

— Мам!—пытаюся я.—А цела ў іх такое самае, як у нас?

— Такое, толькі бялейшае і далікатнейшае.

— А яны таксама ядуць і ўсё робяць, як мы?

Што яны людзі, я ведаў. А ці таксама пабудавана іх цела, я ў гэтым доўга сумняваўся...

Пазней я выхваляўся перад сваімі таварышамі, што бачыў жывога барона, і яны мне вельмі зайздросцілі.

Але больш баронаў мне сустракаць не давodзілася, і аб іх я не думаў. Больш думаў я пра звычайных паноў, якіх цяпер ужо бачыў часцей. З гэтага часу развілося і замацавалася ў мяне асноўнае пачуццё, з якім я жыў многа-многа гадоў... Гэта была зайздрасць да «іх» і вялікая крыўда, чаму я другой пароды, чаму я не магу быць такім, як яны.

Нарэшце мы прышлі ў горад. І прабылі там некалькі дзён. Але памятаю я толькі градкі, якія палола маці, і яшчэ адзін момант, які стаяў і стаіць у маіх вачах і дваццаць, і трыццаць, і пяцьдзесят гадоў.

Я стаю ля плоту і гляджу праз краты. За імі—вялікі двор і двухпавярховы белы дом. На двары гуляюць дзеці, многа хлопчыкаў,—і ўсе, як адзін, у аднолькавым убранні: бліскучыя чаравікі, штаны на выпуск, чорная кашуля са светлымі гузікамі і шырокі рамень з светлай пражкай; з-пад каўняра кашулі высоўваецца белы ўскраек; на галаве—цудоўныя шапкі з белымі кантамі і прыгожым значком з двух срэбных лісцінак, а хто быў без шапак, у тых галовы роўныя, падстрыжаныя. Усе да аднаго прыгожыя, чысцюткія, вясёлыя. Гуляюць у мяч сапраўдны,—вялікі, гумавы. Да чаго-ж яны шчаслівыя, да чаго-ж непадобныя да нашых вясковых хлапчукоў!

Я ведаю, што гэта—вучні. Нават ведаю адкуль, што называюцца яны гімназістамі. Маці цягне мяне за руку, а я не хачу ісці, чапляюся за краты. Потым пытаюся:

— А я буду такім самым вучнем?

— Не, сынок,—уздыхае маці,—гэта для панскіх дзяцей.

— А я дзе буду вучыцца?

— Не ведаю яшчэ. Дзе-небудзь ды будзеш.

І вось, нарэшце, мы напаткалі тое месца, дзе я буду вучыцца. Ці гэта было ў тое самае лета, ці у другое—не ведаю. Ведаю толькі, што гэта было таксама ў часе нашых вандраванняў.

Бальшак з векавымі бярозамі прывёў нас да будынка, агароджанага высачэзным дашчатым плотам, з-за якога ледзь-ледзь відаць быў грэбень дома. Гэта была местачковая турма. Побач быў сад, а ў гэтым садзе—прыгожы, афарбаваны дом. Побач з ім—царква. Значыцца, у доме гэтым жыве бацюшка. А калі зайсці да бацюшкі ды пацалаваць яму руку, то будзем мець залатоўку. Такая ўжо была стаўка ўсіх бацюшкаў.

Зайшлі на кухню. Вышла старая, важная матушка. Маці пачала сваю песню: удава з дзіцем... пагарэльцы... вось паперка... (гэтая паперка дужа нам памагала).

Чамусьці вышаў і бацюшка—велізарны, шырачэзны. Спытаў, хто мы, адкуль, і адразу зрабіўся лагаднейшым. Сказаў, каб нам далі есці, з цікавасцю пачаў распытваць пра нашы Глілушкі.

— А сына хочаш вучыць?—спытаў ён.

— Ой, бацюшка!—усклікнула маці.—Дзень і ноч думаю. Толькі не ведаю дзе.

— А няхай вучыцца ў нас тут.

— А дзе-ж яму жыць?

— У нас ёсць памяшканне.

— А... а як пражыць, пракарміцца? Чым заплаціць?

— Нічога плаціць не трэба—і памяшканне

і харчаванне будзе дармавое. За гэта будзе сёетое рабіць нам... Увосень прывозь сына.

Як усхопіцца маці, як кінецца цалаваць бацюшку не толькі рукі, але і падол расы. Смяецца, плача, штурхае мяне, каб і я цалаваў. Сэрца ў мяне закалацілася, я таксама гатоў заплакаць.

Але тут я ўбачыў нешта такое, праз якое я забыўся і на вучобу і на ўсё ў свеце. У кухню вышла дзяўчынка гадоў пяці—шасці. Маці мяне штурхае да бацюшкі, а я, разявіўшы рот, гляджу толькі на дзяўчынку. Нават сам бацюшка засмяяўся.

І было на што глядзець. Гэта-ж... гэта-ж нямаведама, што такое! Гэткае хараство, гэткае багацце!.. Белае плацейка на ёй было нібы надзьмутае і зусім-зусім кароценькае, а пад ім відаць былі штонікі з карункаў. Дзяўчынка ды ў штоніках! Аднак нічога, нават вельмі прыгожа. Здавалася, яна вось-вось узляціць, як матылёк. А твар белы, чысты. І на галаве вялізны бант. І я бачыў яе зусім зблізку, нават мог-бы да яе дакрануцца, каб меў на гэта права. Ёсць-жа такія шчаслівыя, якія могуць з ёю гуляць!

І адзін такі шчаслівы з'явіўся. Гэта быў хлопчык, убраны бадай таксама, як тыя гімназісты. Глянуў я на яго—і яшчэ больш разявіў рот. Гэта-ж ён, той самы губернатарскі сын!.. Значыцца, ён бацюшкаў сын, а не губернатарскі! А мы, дурныя, тады падумалі, што губернатарскі. Цяпер, калі я такіх вучняў ужо бачыў, нават многа, я так-бы не падумаў. Але ўсё-ж такі зблізку бачыць такога хлопчыка я ніколі не спадзяваўся.

Хлопчык падышоў да дзяўчынкі, і яны абодва з цікавасцю пачалі мяне разглядаць. Я не ведаў, куды мне дзецца. Але добра ведаў, што ў гэтую мінуту ніякая сіла не прымусіла-б мяне цалаваць бацюшку руку.



*Яны абодва з цікавасцю пачалі мяне разглядаць.*

Але брат і сястра доўга мною не займаліся, яны зніклі, як сон. Ды і ўвесь гэты дзень быў для мяне незвычайны, як казка.

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ У ШКОЛЕ

Нарэшце прышоў дзень, калі мы з мамкай адправіліся ў самае важнае падарожжа — у школу. Трэба было прайсці сорак кілометраў, а яны нам здаваліся большымі, як ранейшыя сотні кілометраў: надта ўжо хацелася хутчэй дайсці. Якая будзе гэтая школа? Як там вучацца? Мне ні разу не даводзілася бачыць вучня зблізку, размаўляць з ім. Не ведаў я і дарослых, якія вучыліся-б у школе. Ніхто не мог расказаць мне, як адбываецца вучэнне.

Ішлі мы два дні. Вось ужо знаёмыя прысады, царква, турма, бацюшкаў дом. Бацюшка сустрэў нас ветліва і паслаў нас праз свой сад у другі двор, дзе была турма і невялікі новапабудаваны дом. У ім былі два пакоі, кухня і сенцы. Там было ўжо некалькі вучняў з другіх вёсак. Былі яшчэ вольныя ложкі, і маці зрабіла мне дасканалую пасцель. З якой радасцю яна гэта рабіла! Якім багатым і раскошным здавалася нам гэтае памяшканне!

— Вучыся толькі, вучыся!..—увесь час казала мне маці такім тонам, нібы яна малілася.

Я шчыра абяцаў вучыцца, хоць ніяк не мог сабе ўявіць, як гэта робіцца.

Пакуль што я быў адзін з нашай вёскі. Толькі пазней — не ведаю праз колькі часу — з'явіліся і Кітка, і Цімка, і Грышка, і Пятрусь.

Праз некалькі дзён наша група, чалавек дванаццаць-пятнаццаць, адправілася ў школу. Школа была на другім беразе ракі, у мястэчку.

Мы выстраіліся па-двое і пайшлі. А маці ішла крыху воддалі і глядзела на мяне так, што нельга было разабраць, ці смяецца яна, ці плача. А ў мяне аж дух займае ад хвалявання і цікавасці, што там такое будзе?

Нам трэба было прайсці праз мост у мястэчка. Там, на рагу вялікай плошчы і вуліцы, стаяў невялікі аднапавярховы драўляны дом, ля якога бегалі дзеці. Я здагадаўся, што гэта і ёсць школа. Я зараз-жа ўспомніў тую белую камяніцу і тых хлопчыкаў, якіх я наглядаў праз плот у горадзе. Як непадобны былі тыя хлопчыкі і іхняя школа на гэты дом і гэтых вучняў! Але нічога не зробіш—там-жа былі і панскія дзеці...

Затое настаўнік тут быў таксама пан: у чыстым прыгожым гарнітуры, у манішцы з гальштукам і нават з-пад рукавоў бялеліся манжэты. Ён быў нізкага росту, з русай стрыжанай барадой, і здаваўся добрым. Ён прывёў нас у клас, паказаў нам нашы месцы і вышаў. Мне чамусьці здавалася, што ён мяне зусім і не бачыў.

Клас быў вялікі, з даўжэннымі лавамі. Калі сабраліся ўсе вучні, адразу стала цяжка дыхаць. І не дзіва: вучняў усяго было... 180 чалавек! А настаўнік на іх усіх быў адзін!

Ён бегаў з канца ў канец і нешта гаварыў, крычаў, кагосьці пытаўся. Нас ён у гэты дзень не заўважыў. Але я не нудзіўся: вельмі ўжо цікава было наглядаць, як адбываецца вучэнне. Выходзіць, што з паасобным вучнем настаўнік не займаецца, а трэба самому лавіць навуку. Праўда, пакуль што я нічога не разумею, але трэба думаць, потым навучуся лавіць.

Аднак дзень гэты для мяне не прайшоў дарэмна: я ўбачыў такое, чаго нават пазней не бачыў.

Адкуль і як пачалося — не ведаю. Памятаю толькі, як пасярэдзіне класа стаіць на каленях дзяцюк з вусамі, а каля яго завіхаецца настаўнік. Пры гэтым дзяцюк на каленях бадай што такой самай вышыні, як настаўнік на нагах. Настаўнік размахваецца рукамі і то з аднаго, то з другога боку б'е дзяцюка па твары. Мне чамусьці асабліва ўрэзалася ў памяць, як у настаўніка развяваюцца канцы яго пінжака, а дзяцюк маўчыць і толькі крышачку хістаецца пад ударам то ў адзін, то ў другі бок...

Само біццё мяне не здзівіла. Я не раз чуў, што настаўнік павінен біць вучняў. Якая-ж вучоба без біцця? Але вельмі пацешна было глядзець, што вучань большы за настаўніка і маўчыць, нібы б'юць не яго. Такіх вучняў у класе было каля дваццаці. Яны ўсе сядзелі ззаду каля сцяны. Казалі, што аднаму з іх было нават дваццаць шэсць гадоў.

Не ведаю, ці ўвесь час маці чакала мяне каля школы, ці куды адыходзіла, але яна зараз-жа сустрэла мяне, калі я вышаў.

Яна была нейкая не такая, усміхнулася нібы сама сабе.

— Ну? што? як?..—пачала яна пытацца, нібы чакаючы, што я ўжо крышачку padвучыўся і паразумнеў.

Але я нічога не мог сказаць апрача таго, як білі дзецюка.

— Глядзі, добра вучыся, слухайся настаўніка, а то і табе гэтак будзе!—зараз-жа падхапіла яна.

Я нешта чуў, нібы гэты дзяцюк камусьці разбіў галаву. Калі так, то добра: я магу пастарацца нікому не разбіваць галавы. А што, калі яго білі за тое, што ён чагосьці не зразумеў? Тады ўжо не ведаю, што са мной будзе, бо я сёння нічагусенькі не зразумеў.

Купіўшы мне вучнёўскія прылады і нагаварыўшы шмат усялякіх парад, маці адправілася дадому.

Я першы раз у сваім жыцці астаўся жыць без маці.



*Я ўбачыў такое, чаго нават пазней не бачыў.*

**(Працяг будзе).**




Л. КВІТКО.

Мал. Ю. Пучынскага

Вось працуюць
Брукары
Да вячэрняе
Зары.

Яны камень
Б'юць і б'юць,
Пліткі роўныя
Бяруць;

Чэшуць гладка
Малаткамі
І кладуць,
Кладуць радкамі.

Дужыя ў іх рукі,
Малаткі са сталі,
Дружна ўсе над брукам
Песні заспявалі:
Цюк-ток-ток,
Цюк-тук-тук,
Мы брукуем
Роўны брук.

Пойдзе брук наш,
Пойдзе скора,
Пакуль прыдзе
Ў іншы горад.
Брук наш доўгі,
Аб'яднай
Наш вялікі
Вольны край!

Цюк-тук-тук,
Цюк-тук-так!
Піонеры,
Цвёрда шаг!

Што мне лютыя марозы,
Што мне ясны белы снег?
Зараз нават і маленькі
Не заблудзіцца на мне.

Цюк-тук-так,
Цюк-тук-так!
Цвёрда шаг!
Цвёрда шаг!






*Нанайская казка*

У раду Самараў жыў адзін нанаец — Ла. Была ў яго дачка. Прыгожая дзяўчынка. Усе яе любілі. Нехта сказаў, што прыгажэй за Айогу ні ў гэтым стойбішчы, ні ў якім другім — нікога няма. Айога заганарылася. Пачала разглядаць свой твар. Спадабаўся ён ёй. Пазірае — не можа адарвацца, не можа наглядзецца. То ў медны таз начышчаны глядзіцца, то ў ваду.

Зусім стала Айога лянівая. Усё любуецца сабою.

Вось аднойчы кажа Ла сваёй дачцы:

— Схадзі па ваду, Айога!

Дачка адказвае:

— Я ў ваду звалюся.

— А ты за куст трымайся, — кажа ёй маці.

— Куст абломіцца, — адказвае зноў Айога.

— А ты за моцны куст трымайся.

— Рукі абдзяру...

Маці кажа ёй тады:

— Рукавіцы надзень!

— Парвуцца, — кажа Айога. А сама ўсё ў медны таз глядзіцца — якая яна прыгожая.

— Дык зашый рукавіцы іголкай.

— Іголка зломіцца.

— Вазьмі тоўстую іголку! — кажа бацька.

— Палец укалю! — адказвае дачка.

— Напарстак адзень.

— А ён праломіцца.

Тут суседская дзяўчынка кажа маці Айогі:

— Я схаджу па ваду.

Пайшла і прынесла вады.

Спякла маці аладкі.

Крычыць ёй Айога:

— Дай мне аладку!

— Гарачая яна! Рукі апячэш! — кажа маці.

— Я рукавіцы надзену,—кажа Айога.

— Рукавіцы мокрыя.

— Я іх на сонцы высушу.

— Ссохнуцца яны,—адказвае маці.

— Я іх разамну.

— Рукі забаляць, — кажа маці. — Навошта табе працаваць, прыгажосць сваю псаваць? Лепш я аладку той дзяўчынцы аддам, якая рук сваіх не шкадуе.

Узяла маці аладкі і аддала суседскай дзяўчынцы. Раззлавалася Айога. Пайшла за дзверы, на раку. Пазірае на сябе ў ваду. А суседская дзяўчынка есць аладкі. Пачала Айога на яе азірацца — шыя ў яе даўгая зрабілася. Дзяўчынка кажа Айозе:

— Вазьмі аладкі, Айога, мне не шкада.

Замахала на дзяўчынку лянівая дачка, пальцы наставіла, пабялела ўся ад злосці — так замахала, што рукі ў крыллі ператварыліся.

— Не трэба мне нічога! — крычыць.

Скочыла Айога ў ваду і ператварылася ў гусь. Плавае па вадзе. Крычыць:

— Ах, якая я прыгожая, го-го-го! Ах, якая я прыгожая!

Так і да гэтага часу плавае. Толькі на ўсе словы нанайскія забылася і крычыць, ледзь каго ўбачыць:

— Ай-ога-га-га! Ай-ога-га-га!



# Проста бабулька

В. ОСЕЕВА

Мал. Ф. Круглянская

Па вуліцы ішлі хлопчык і дзяўчынка. А наперадзе іх ішла бабулька. Было вельмі коўзка. Бабулька пакаўзнулася і ўпала.

— Патрымай мае кніжкі! — крыкнуў хлопчык, перадаў дзяўчынцы свой партфель і кінуўся на дапамогу бабульцы.

Калі ён вярнуўся, дзяўчынка спытала яго:

— Гэта твая бабулька?

— Не,—адказаў хлопчык.

— Мама? — здзівілася сяброўка.

— Не!



— Ну, цёця? Альбо знаёмая?

— Ды не! — са смехам адказваў ёй хлопчык. — Гэта проста бабулька.



Весела і цікава праводзяць адпачынак выхаванцы Мінскага дзетдома № 7.
На здымку—сцэна з п'есы-казкі «Маленькі мук». У ролі караля выхаванка Роза Зігле, у ролі каралевы—Ніна Куніцкая.

Фота В. Лупейкі.

# Вучыся хадзіць на лыжах

Скарыстай зімовы час, купі сабе лыжы, навучыся на іх хадзіць. Калі купіць лыжы не можаш, зрабі іх сам. Справа гэта не вельмі цяжкая. Простыя лыжы ты можаш зрабіць з клёпак звычайнай бочкі. Можна зрабіць лыжы з дрэва. Для гэтага дрэва трэба загадзя распарыць, а потым сагнуць так, як згінаюць палазы для саней.

Спачатку хадзі на лыжах без кіёў, добра авалодай тэхнікай руху ног і тулава. Хадзі наступным чынам. Высоўвай левую нагу наперад, і, згінаючы ў калені, пераносъ на яе ўвесь цяжар свайго цела. Рухайся наперад разам з левай лыжаю. Правая нага ў гэты час выцягваецца, згінаецца ў ступені. Энергічным рухам падцягвай яе, пераносъ цяжар цела ўправа і едзь на правай лыжыне, вызваліўшы ад цяжару левую нагу. Рукі ў гэты час павінны быць вольныя, не напружвай іх, трымай так, як пры звычайнай хадзьбе.

Лыжы ў час руху павінны ісці паралельна. Хадзі на лыжах павольна, не рабі рэзкіх рухаў. Спачатку вучыся хадзіць па прамой лініі, потым пачынай займацца паваротамі. Каб зрабіць паварот налева, пераносъ цяжар цела на правую нагу і, пакідаючы левую лыжу на месцы, адводзь насок улева, колькі можаш. Пасля гэтага пераносъ цяжар цела ўлева і правую лыжу прыстаўляй да левай. Калі-ж добра вывучыш павароты на месцы, паспрабуй зрабіць іх на хаду.



Кіі лыжніку патрэбны для паскарэння руху. Яны выносяцца і ставяцца ў снег з абодвух бакоў лыж насупраць наска вынесенай наперад нагі. Рукі робяць рух, як і пры звычайнай хадзьбе: наперад левую нагу і правую руку і наадварот.

Такі просты спосаб хадзьбы на лыжах называецца пераменным.

# Як зрабіць каток

Калі рэчка або возера добра ўмерзне, трэба ачысціць лёд ад снегу. Снег зграбаюць і складваюць вакол чыстай пляцоўкі ў выглядзе вала. Каб лёд ад марозу не трэснуў, за валам, на адлегласці 20—25 метраў, можна прасячы палонкі паперам 0,5×2 метры. Ля палонак трэба абавязкова паставіць вешкі, каб хто небудзь з рэбят у іх не ўваліўся.

Калі-ж блізка няма рэчкі або возера, каток можна зрабіць на поплаве. Трэба ачысціць пляцоўку і заліць яе вадою. Магчыма, што пляцоўку давядзецца заліваць вадою некалькі разоў, каб лёд зрабіўся тоўстым і роўным.



## САМАЕ ЛЁГКАЕ

«Лёгкі, як пух», — кажуць аб вяшчэствах і прадметах, якія мала важаць.

Гаворачы пра пух, забываюць, аднак, на шмат лягчэйшае — на паветра. Яно настолькі лёгкае, што здаецца быццам і зусім нічога не важыць. Таму, мусіць, аб ім і не памінаюць; яго вага здаецца нікчэмнай, не вартай увагі. Але ці так гэта?

Вядома, у параўнанні з вадою вага паветра і сапраўды нікчэмная; літр вады важыць тысячу грамаў, літр паветра ў пакоі—1,2 грама (у 833 разы менш!).

Але ўявім сабе такі дослед: паветра, якое знаходзіцца ў пакоі памерам у 6×7 метраў і вышынёю ў 3,5 метра, моцна сціснута і запакавана ў чамадан. Аказваецца, што гэты «паветраны багаж» вы не змаглі-б не толькі панесці, але нават зрушыць з месца. Ён важыў-бы 176 кілограмаў! Ці думалі вы, што паветра ў пакоі сярэдняга памеру важыць амаль 11 пудоў?

Мы жывем, як-бы на дне «паветранага акіяна»: акружаючае зямлю паветра называецца атмасферай. Атмасфера — паветра—ціснe на паверхню зямлі з сілай у 1033 грамы на кожны квадратны сантыметр.

Паверхня цела чалавека раўняецца прыкладна 1,5 квадратным метрам. А гэта значыць, што ціск атмасферы на чалавека раўняецца 15 тонам! Калі пакласці такі цяжар чалавеку на спіну, дык чалавек будзе раздаўлены. Чаму-ж гэтага не адбываецца?

Таму, што цяжар не ляжыць у чалавека на спіне: атмасфера ціснe на цела роўнамерна з усіх бакоў, прычым, з такой-жа сілай ціснe і з сярэдзіны. Такім чынам знешні ціск і ўнутраны ўроўнаважваюць адзін другога.

## ГЛІНЯНАЯ БІБЛІЯТЭКА

Самая старажытная ў свеце бібліятэка, якую давялося знайсці вучоным, належала асірыйскаму цару Асурбаніпалу. Жыў ён каля двух з паловай тысяч год таму назад.

Бібліятэка Асурбаніпала складалася не з кніг, а з гліняных дошчачак, на якіх вострымі кіёчкамі былі намаляваны асобныя клінападобныя значкі. Клінападобнае пісьмо існавала задоўга да таго, як былі вынайдзены лацінскі, грэчаскі і рускі алфавіт.

Большасць дошчачак, знойдзеных сярод рэшткаў палаца, мела на сабе такі надпіс: «Палац Асурбаніпала, цара сусветнай, цара Асірыі». Дошчачкі, з якіх складаўся адзін літаратурны твор, хаваліся ў асобнай драўлянай скрыні. Такіх скрыняў бібліятэка налічвала вельмі шмат.

## З М Е С Т



На вокладцы: мал. Ф. Круглянскага „На санках"; мал. М. Гурло „На катку".
На ўкладках: С. М. Кіраў. Рэйкавая вайна—з карціны мастака С. Раманава.


«Берёзка»—на белорусском языке. Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55, Дом друку.

Адказны рэдактар А. Якімовіч.

АТ 01125. Здана ў набор 26/XI—46 г. Падпісана да друку. 23/XII—46 г. Друк. арк. 2.

Друкарня імені Сталіна. Мінск, Пушкіна, 55. Тыраж 10 000 экз. Зак. 417.

## ЗАГАДКАВЫ ЛІСТ

Вася Гамбіт быў добра вядомы ў школе. Гэты зацейлівы хлопчык ніколі не даваў сумаваць сябрам. Як толькі празвініць званок на перапынак або скончыцца збор звяна, Вася пачынае задаваць цікавыя задачкі і галаваломкі.

Калі Вася рашыў паступіць у рамесленае вучылішча, сябры засумавалі.

Аднак яны дамовіліся, што будуць увесь час перапісвацца, у лістах расказваць аб сваіх поспехах.

Нядаўна Вася Гамбіт прыслаў ліст у школу. На канверце быў намаляваны дзіўны знак, які мае такі выгляд:



Вася ў лісце пісаў:

*«Дарагія сябры!*

*Вучоба ў мяне ідзе поўным ходам. Я цвёрда рашыў стаць выдатным слесарам і таму шмат працую і чытаю. Ужо атрымаў тры «пяцёркі». Спадзяюся і ў далейшым не запляміць чэсць сваёй любімай школы.*

*Вы таксама ў будучым станеце выдатнымі будаўнікамі-спецыялістамі, калі вы будзеце:*



*Чакаю адказу.*
*З прывітаннем: Вася Гамбіт».*

Сябры таксама рашылі адказаць загадкавым лістом. Яны прыслалі ў наш часопіс Васін ліст і просяць, каб усе чытачы дапамаглі ім прачытаць пажаданне Васі і скласці загадкавы ліст.

Дапамажыце ім, рэбяты!

## ШАХМАТЫ

*Мат канём і сланом*

Часта ў шахматнай партыі здараецца такое становішча, калі ў аднаго праціўніка застаюцца Кароль, Конь і Слон, а ў другога—адзін Кароль. Неспрактыкаваны шахматыст можа зрабіць 50 хадоў і не даць мата. Аднак з любога становішча канём і сланом даецца мат не больш чым праз 33 хады.

Не цяжка пераканацца, што ў цэнтры дошкі гэтыя фігуры мата даць не могуць. Таму караля трэба адціснуць у куток. Прычым у такі куток, якога колеру слон. На малюнку мы бачым, што ў белых белапольны слон. Значыць, трэба



прымусіць чорнага караля перакачаваць у куток a8. Дасягаецца гэта так:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Kg5 — f7 + | Kph8 — g8 |
| 2. | Cf5 — e4 | Kpg8 — f8 |
| 3. | Ce4 — h7 | Kpf8 — e8 |
| 4. | Kf7 — e5 | Kpe8 — f8 |
| 5. | Ke5 — d7 + | Kpf8 — e8 |
| 6. | Kpf6 — e6 | Kpe8 — d8 |
| 7. | Kpe6 — d6 | Kpd8 — e8 |
| 8. | Ch7 — g6 + | Kpe8 — d8 |
| 9. | Cg6 — f7 | Kpd8 — c8 |
| 10. | Kd7 — c5 | Kpc8 — d8 |
| 11. | Kc5 — b7 + | Kpd8 — c8 |
| 12. | Kpd6 — c6 | Kpc8 — b8 |
| 13. | Kpc6 — b6 | Kpb8 — c8 |
| 14. | Cf7 — e6 + | Kpc8 — b8 |
| 15. | Ce6 — d7 | Kpb8 — a8 |
| 16. | Kb7 — c5 | Kpa8 — b8 |
| 17. | Kc5 — a6 + | Kpb8 — a8 |
| 18. | Cd7 — c6 ×. | |

Цана 2 руб. 50 кап.





ПІОНЕР ы, Н ыЖ ы, НА АНЬКІ!




а к т у.

Мал. М. Гурло